# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 6 (261) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 11 ЛЮТАГА 1962 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.



Выбары ўчастка для хімпрапалкі (злева направа): пілот В. Ціпічкін, старшыня калгаса А. Варанецкі, аграном Гродзенскага міжраённага атрада па ахове раслін П. Ратонскі.

ВЕСТКІ з БССР

## КАЛГАС „ГВАРДЫЯ"

Машына крута павярнула налева, перад вачыма адкрылася панарама калгаснай вёскі.

— Вось і нашы Эйсманты, — сказаў шафёр.

Вёска Вялікія Эйсманты — цэнтр калгаса «Гвардыя» Бераставіцкага раёна Гродзенскай вобласці. Зараз гэта буйная шматгалінная гаспадарка. Калгас аб'ядноўвае каля 400 двароў. За ім замацавана больш трох з палавінай тысяч. гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў, з якіх 2700 гектараў занята пад раллю.

Некалькі год назад на тэрыторыі калгаса было шэсць невялікіх сельгасарцелей. У 1952 годзе ўсе гэтыя арцелі аб'ядналіся ў адну вялікую гаспадарку. Старшынёю новага калгаса хлебаробы выбралі дырэктара мясцовай сямілетняй школы Андрэя Варанецкага. Варанецкі нарадзіўся і вырас у вёсцы, ведаў добра сельскагаспадарчую вытворчасць. Праўда, у яго не было вопыту кіраўніцтва вялікай гаспадаркай, затое ў Варанецкага было іншае — жаданне дапамагчы хлебаробам падняць гаспадарку. А гэта ўжо многае значыла.

Любa Богдан са сваімі выхаванцамі.

Новаўтвораная гаспадарка эканамічна была слабая. Калгас лічыўся адным з адстаючых у раёне. Але Варанецкі верыў у сілу калектыва. Ён быў пераконаны, што хлебаробы змогуць пераадолець адставанне і вывесці гаспадарку ў лік перадавых. І Варанецкі не памыліўся ў сваіх пераканннях. Дружная праца калектыва забяспечыла хуткі рост эканомікі калгаса.

— Перш за ўсё мы звярнулі сур'ёзную ўвагу на развіццё жывёлагадоўлі, — гаворыць тав. Варанецкі. Зараз на ферме калгаса 1786 галоў буйнай рагатай жывёлы, з іх 635 кароў. Павысілася і прадуктыўнасць жывёлагадоўлі. У прошлым годзе калгас атрымаў ад кожнай каровы па 2383 кілаграмы малака. Зразумела, калгас не змог бы дабіцца такіх поспехаў, калі б ён сур'ёзна не ўзяўся за вырошчванне кукурузы.

(Працяг на стар. 2)

УСПАМІНЫ ДЗЕЯЧОЎ ППР

## ПАСТАНОВЫ ДЫКТАВАЛА ЖЫЦЦЕ

У лютым 1945 года атрымаў я паведамленне ставіцца да Праўлення гміны ў Кляшчэлях. У вызначаны час я прыехаў у гміну, дзе сустрэў 10 таварышаў, былых членаў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, якія таксама былі выкліканы сюды. Сход адкрыў дэлегат Павятовага камітэта ППР з Бельска Падляшскага. У сваім выступленні ён падкрэсліў, што перад намі, старымі партыйцымі дзеячамі стаяць важныя заданні ў тварэнні новай дзяржаўнай адміністрацыі. Другім важным заданнем, пастаўленым перад намі, было стварэнне партыйнай арганізацыі на тэрыторыі гміны. З гэтай мэтай атрымалі мы статут Польскай Рабочай партыі. Пазнаёміўшыся з ім, я сцвердзіў. што паміж ім і статутам КПЗБ няма розніцы. Усе прысутныя на сходзе падпісалі дэкларацыі і тым самым сталіся мы членамі Польскай Рабочай партыі.

Адразу назначана нас сакратарамі партыі і забавязана да партыйнай працы на мясцах.

Тэрыторыяй маёй дзейнасці была родная вёска Доўгі Брод і ваколіца. Да арганізацыі ўцягнуў я 13 таварышаў, гэта былі ў асноўным маладыя людзі. Найстарэйшым быў я. было мне тады 42 гады. Каб праца была больш аператыўнай, падзялілі мы нашу арганізацыю на тры групы. Першая базіравала на вёсцы Курашава, другая на Палічнай і трэцяя на Доўгім Бродзе. Кожная

(Працяг на стар. 5)

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## З АЛЕСЕМ БАРСКІМ ЗА КРУГЛЫМ СТАЛОМ




**«Ніва»:** Віншую! Ваш зборнік дае дасканалую аказію пагаварыць на літаратурныя тэмы.

**Барскі:** Дзякую. Аказія сапраўды для мяне прыемная, хоць ёсць у ёй, як ва ўсім дасягнутым і пяройдзеным, пэўныя элементы суму і разачаравання.

**«Ніва»:** Не думаю, каб яны ў Вашым выпадку былі абгрунтаванымі.

**Барскі:** Усё дасягнутае ў нейкай ступені становіцца ўстарэлым і архаічным.

**«Ніва»:** Вы першы з нашага літаб'яднання вышлі з уласнай паэтычнай кніжкай, хоць пачалі пісаць пазней другіх.

**Барскі:** Тое што вырастае раптоўна, даволі хутка вяне. Першая кніжка можа стацца апошняй. Зрэшты, магу падаць сваім сябрам з літаб'яднання рэцэпт на хуткае паўставанне зборнікаў паэзіі.

**«Ніва»:** Цікава.

**Барскі:** Хай умакаюць свае аўтаручкі ў белавежскіх крыніцах. Тады толькі ўспявай пісаць. Не надасіся паперы.

**«Ніва»:** Вы шмат цёплых радкоў прысвяцілі Беласточчыне. Ці не таму, што жывеце пастаянна ў Лодзі?

**Барскі:** Наадварот, таму што жыву пастаянна на Беласточчыне. Лодзь, гэта месца майго «фізічнага» прабывання. Духова знаходжуся заўсёды ў Белавежы.

**«Ніва»:** Каб чэрпаць творчае натхненне?

**Барскі:** Бачыце, ваўка ў лес цягне. Беласточчына, гэта маё дзяцінства і юнацтва. А хто ж з нас скоса глядзіць на сваю маладосць, нават тады, калі б была яна і недасканалай?

**«Ніва»:** Адгэтуль і Ваш культ Белавежы.

**Барскі:** Я так глыбока разгубляюся, што нават часта не магу выдзяліць сябе з Белавежы ў нешта самастойнае. Ці Вам не здаецца, што я з'яўляюся адным з дрэў белавежскіх?

(Працяг на стар. 3)

## ВЕЧАР УСПАМІНАЎ

28 студзеня ў памяшканні ГП БГКТ адбылася сустрэча актыву Таварыства, на якой былыя дзеячы ППР падзяліліся сваімі ўспамінамі з часоў барацьбы за народную ўладу на Беласточчыне. Простая, непасрэдная гутарка ўдзельнікаў гэтага змагання выклікала асаблівае ўражанне на прадстаўніках маладога пакалення. Сустрэча паказала, што да такіх мерапрыемстваў наш актыў ставіцца з вялікім зацікаўленнем і варта, каб і павятовыя аддзелы, а таксама гурткі, падумалі аб арганізацыі падобных сустрэч.

(рд)

# Літаратурная старонка

№ 38

Трыбуна літаратурнага аб'яднання

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## Боязнь

Мне крыўдна за красу зямлі,
Што наклююць акопы воспай;
Таму гатоў прасіць, маліць,
Каб не плыла над ёю роспач.

Балюча мне за сіні бор,
Я бачыў пушчу расстралянай,
Як дрэва кожнае лье боль,
З раздзёртых боем, свежых ранаў.

Баюся за малых дзяцей,
За чыстасць сонечных праменняў.
Ці мне дзіця вянок спляце,
Ля жыта стаўшы на калені?

Трывожна за мой сціплы верш.
Ці да людзей змагу данесці...
Вайна — шалёны сухавей,
Прыносіць смерць людзям і песні.

* * *

Зямля чалавецтву калыскай —
Ды не жыць у калысцы заўсёды.
Нас клічуць і цені, і бліскі
Далёкіх касмічных усходаў.

Не хадзіць нам па цвёрдаму вечна,
Калі манняць легендай прасторы.
Людзі пройдуць Дарогаю Млечнай
Людзі дойдуць да сонца і зорак.

Ці ёсць грань між развагай і шалам?
Свет зямны — свет фантазій і візій.
У імкненні да форм дасканалых
Ідуць людзі праз мора калізій.

Плыве ў жылах і радасць, і вера,
Не спяваць жа нам песень адпетых.
Пацалуем мы губы ў Венеры,
І абдымем другія планеты!

Укладаем мы гімн піянерам,
Што прабілі у космас дарогу.
Уваходзім у новую эру,
Дзе не будзе няшчасцяў былога.

# Першая размова

З Алесем Барскім (Аляксандрам Баршчэўскім) мы пазнаёміліся нядаўна — толькі ў 1959 годзе. Змешчаныя на «Літаратурнай старонцы» і ў паэтычным зборнічку «Рунь» вершы маладога паэта аказаліся яго добрай творчай заяўкай. Валоданне моўным матэрыялам, вобразнасць твораў вылучылі Барскага адразу сярод жменькі беларускага літаратурнага маладняка ў Польшчы. Шматлікія літаратурныя вечары, у час якіх паэт выступаў з новымі творамі, яшчэ больш упэўнілі нас, што маем дачыненне з цікавай творчай адзінкай. Аднак ні надрукаваныя дагэтуль вершы, ні сустрэчы з чытачамі не спрыялі больш дакладнаму азнаямленню з творчасцю паэта. Гэтую, менавіта, магчымасць дае нам зараз выданы Галоўным праўленнем Беларускага грамадска - культурнага таварыства зборнік вершаў п. з. «Белавежскія матывы», які ўпершыню дазваляе ўбачыць Барскага ва ўвесь рост яго маладога таленту.

Так як паэзія сведчыць аб маладосці літаратурнага руху, так любоўныя матывы ў ёй сведчаць аб творчай маладосці яе аўтара. Справа тут не ў параўнанні, тым больш, што зусім не адмаўляем чалавечаму сэрцу здольнасцей да самых запаветных пачуццяў у любую пару жыцця. Маем на прыкмеце самую трактоўку тэмы кахання, мусіць самай труднай тэмы, калі ўлічым, што столькі тут ужо ў паэзіі сказана. Урэшце каханне і становіцца найчасцей першакрыніцай паэтычнай творчасці, яе выпрабаваннем, уступаючы толькі значна пазней месца другім хвалюючым паэта жыццёвым з'явам. Дык вось у Барскага дзе-нідзе ў трактоўцы гэтай тэмы адчуваецца аднастайнасць прыёмаў і паэтычных ходаў. Абвятшалыя эпітэты, збяднелыя вобразы, тое, што ўжо перапетае і забытае, сустракаем у паасобных вершах зборніка. У такіх, напрыклад, творах як «Калі ты ў каханне не верыш...» і «Асалода» — «сакавітыя вусны» дзяўчыны не выклікаюць ужо ніякага ўражання. У радзе ж іншых твораў аж да прытарнасці аўтар прымушае «аддаваць вусны вуснам»... Паслухайма:

«Ды цяжка развітацца нам,
Самотна адысці дамоў.
Калі не адплыла вясна,
Дык вусны вуснам аддамо.»

(з верша «Мы ведаем, што трэба спаць...»)

«Не адгонім мы спакусы —
Не сцярпець.
Дык аддайма вуснам вусны
Мы цяпер.»

(З верша «У ліпені»)

А шкада, таму што паасобныя творы Барскага зусім добрыя. Падкупаюць чытача сваёй свежасцю і вобразнасцю («Ці прыдзе», «Змрок. Заціх калёсны грукат...»). Трэба меркаваць, што гэтыя хібы ў паэта выкліканы хутчэй недастатковай патрабавальнасцю да сябе, чым няўмеласцю.

Куды лепей спраўляецца Алесь Барскі з прыродаапісальнай лірыкай. Яна значна шчыльней прыпадае да душы, прывабліваючы чытача сапраўднай паэтычнай атмасферай. Асабліва запамінаецца верш «Айчына» — ім дарэчы і адкрываецца зборнік — а таксама верш «Вечар». Гэтыя творы кранаюць нас напеўнасцю і хараством вобразаў. Матывы прыроды пераплятаюцца тут з матывамі хатняга кутка і юнацкага кахання. Сугестыўны вобраз вёскі ў вячэрнюю пару створаны ў «Вечары»:

«Вечар страсянуў з галінак спеў птушыны,
Верхавіны клёнаў напаіў спакоем.
Лес на небасхіле сонца глынуў,
Ад хляvоў заціхшых панясло надоем.»

Увогуле, самыя прачулыя радкі прысвячае Барскі добра вывучанаму з маленства пейзажу. Урэшце, вось гэты сказ, пачэрпнуты намі са змешчанай у зборніку аўтабіяграфіі паэта павінен многа нам вытлумачыць: «Мая родная вёска, Бандары, ляжыць над Нарвай у Беластоцкім павеце, на ўскраіне белавежскага масіва...» Таму не здзіўляе нас туга паэта па роднаму, якой час ад часу веюць яго творы. А ў вершы «Сумуючы» аўтар недвухсэнсава гаворыць аб сваім пушчанскім радаслоўі:

«Я ж вышаў з рук яе галінак,
Што паставалі шчыра, чула,
І па пясчаных каляінах
Блудзіў з сяброўскім пушчы гулам.»

Адвечны ў паэтаў матыў прывязанасці да свайго роднага праходзіць чырвонай ніццю праз многія творы Барскага. І таму заканамерным з'яўляецца, што ён не ашчаджае горкіх папрокаў тым усім, якія, будучы дзецьмі вёскі, зараз напышліва і з пагардай глядзяць на асяроддзе, з якога выйшлі. Асабліва моцна гучыць верш «Да свінні», якога вянчаюць наступныя словы, нагадваючыя народную прымаўку:

«І хоць далі табе медаль на грудзі —
Свіння свіннёй заўсёды будзе.»

Варта ў гэтым месцы адзначыць, што маладых беларускіх творцаў у Польшчы хвалюе справа адносін выхадцаў з вёскі да яе ж. Мне прыпамінаецца апавяданне Васіля Баршчэўскага «Вясельная гуска» і верш Дзмітрыя Шатыловіча «Ты ўжо забыла», у якіх выразна ставіцца гэтае набалелае пытанне. Зараз размову аб ім, як бачым, працягвае Алесь Барскі. Да гэтых твораў прымыкае ў пэўнай ступені па сваёй аднатэмнасці верш паэта п. з. «Мой сын». Тут смела пастаўлена пытанне ўжо асабістага характару — аб лёсе малога сына, які не ў сілах зразумець мовы бабкі і дзеда:

«Сынок мой не цяміць, як з дзедам гаворыць,
Нязручны яму дыялект маёй маці.
Ці словам падзякі, ці словам дакору
За гэта ён мне калі-небудзь заплаціць?»

У творы няма вырашэння і на яго канцы ізноў стаіць пытальны знак...

Аднак Алесь Барскі не абмяжоўваецца толькі да асабістых перажыванняў, а выходзіць за іх межы, на шырокі прастор жыцця. Ён жа ж жыве ў той час, калі міру пагражаюць пачварныя замеры падпальшчыкаў новай вайны, жыве ў час, калі нельга маўчаць, быць бяздзейсным. Паэта ахоплівае справядлівая трывога за лёс зямлі, за ўсё тое, чым яна жыве і красуе. Ён з апаскай глядзіць і на свой лёс, лёс скромнага паэта:

«Трывожна за мой сціплы верш.
Ці да людзей змагу данесці...
Вайна — шалёны сухавей,
Прыносіць смерць людзям і песні.»

Прыгаданае чатырохрадкоўе пачэрпнута з верша «Боязнь». Рысы, якімі ён вылучаецца, ставіць яго ў радзе лепшых твораў у зборніку. Твор дасягае значнай мастацкай дасканаласці дзякуючы рытмічна арганізаванай мове, дзякуючы яе лёгкасці і гнуткасці. Побач з гэтым вершам па мастацкім якасцям і аднатэмнасці стаіць верш пад загалоўкам «Дар». У ім паказаны жудасныя вынікі вайны, якія знявечваюць салдат, забіраюць ім здольнасці і радасць жыцця. Калі ў «Боязні» Барскі паказаў сябе нейкім чынам пасіўным да з'яў вайны, дык у «Дары» голас яго набывае больш гнеўны тон, становіцца важкім і рашучым:

«Збяру я боль усіх адбітых ног і рук,
Пагаслых маладых вачэй збяру я жар,
Маўчанне і тупую глухату збяру
І паднясу падпальшчыкам, як дар.»

Сапраўды, шырокі тэматычны дыяпазон паэзіі Барскага. Вось паасобныя творы яго прысвечаныя барацьбе народаў за свабоду сваіх краін, за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне. У трактоўцы тэмы інтэрнацыяналізму паэт дасягае значных поспехаў. Асаблівай эмацыянальнай нагрузкай вызначаецца злабадзённы сваёй тэмай верш «Куба». Амерыканская ваеншчына не развіталася ж яшчэ з думкамі, каб перашкодзіць кубінскім патрыётам Фідэля Кастра ў іх мірнай стваральнай працы на карысць сваёй айчыны. Гэтая свабодная краіна і надалей з'яўляецца спакуслівым кавалачкам тэрыторыі для яе бліжэйшых суседзяў:

«Звязаць суседцы прагнуць рукі,
Падняць зноў хочуць Кубу
на распяцце,
Ахутаць край ваеннай мукай,
Абсеяць поле горычным пракляццем.»

Алесь Барскі — радавы паэтычнага фронта — хоча стаць салдатам Фідэля:

«Хвалю народ, што стаў вялікім
І слаўлю чын герояў барадатых;
Гукаю Фідэлю я шчырым крыкам,
Што прагну стаць яго салдатам!»

У зборніку радуе нас цыкл вершаў, азагалоўленых «Па слядах КПЗБ і Грамады». У іх аўтар атоесамліваецца з барацьбітамі гэтых партый, уводзіць сябе ва ўмовы іх астрожнага жыцця («Надзея», «Астрожная вясна», «Нас ведалі», «Паэзія»), разам з імі сумуе па роднай вёсцы і жыве непахіснай верай у перамогу справядлівасці над сіламі цемрашальства і прыгнёту. Творы гэтага цыкла вызначаюцца значнай мастацкай дасканаласцю і завершанасцю. Іх мастацкія дэталі ўзнаўляюць нам з вобразнасцю часам малапрыкметныя з'явы астрожнага жыцця выбыўшых на нейкі час са строя камуністаў. Вось хаця б «размова» зняволеных падпольшчыкаў праз астрожныя

(Працяг на стар. 4)

# З АЛЕСЕМ БАРСКІМ ЗА КРУГЛЫМ СТАЛОМ

(Працяг са стар. 1)

**«Ніва»:** Пакуль што, не.

**Барскі:** Бо я няўпэўнены.

**«Ніва»:** Ваш літаратурны ідэал?

**Барскі:** Сярод пісьменнікаў Максім Багдановіч, сярод літаратурных відаў — лірычны верш, сярод герояў — дзяўчына...

**«Ніва»:** Белавежская, зразумела.

**Барскі:** Зразумела, яна.

**«Ніва»:** А планы на будучыню?

**Барскі:** Не ад мяне залежаць, толькі ад настрою?

**«Ніва»:** ???

**Барскі:** Планаў не маю, творчай сістэмы таксама. Настрой падказвае, што пісаць. Часта падказвае такое, чаго я і сам не спадзяваўся. Часам маўчыць на працягу некалькі месяцаў. Я не хвалююся, чакаю. Не ведаю, якія ён мае планы. Так ці інакш, я паслушны волі настрою.

**«Ніва»:** Што Вы хацелі б сказаць чытачам?

**Барскі:** Люблю іх. Хацеў бы перадаць ім самыя сардэчныя пажаданні. Хацелася б ведаць, што ім у маім зборніку падабаецца, а што не. Мае вершы, гэта асабістыя, а можа нават і інтымныя лісты да чытачоў, лісты, у якіх выяўляю свае пачуцці, ідэі, настроі, каханне. І таму чакаю ад усіх чытачоў адказу.

**«Ніва»:** Веру, што атрымаеце.



За «круглым сталом» Алесь Барскі (злева) і галоўны рэдактар «Нівы» Георгі Валкавыцкі.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ЖУРЫ ЛІТАРАТУРНАГА КОНКУРСУ

**Журы літаратурнага конкурсу на творчасць для дзяцей паведамляе: у выніку абмеркавання конкурснага матэрыялу пастаноўлена прызнаць першую ўзнагароду Алесю Барскаму за паэму «Мікола», другой узнагароды не прызнана, трэція ўзнагароды атрымалі Віктар Швед і Ягор Хлябіч за вершы, а таксама Яўген Блізнюк за апавяданне «Паладзіліся».**

ДА СПРАВЫ ПРЫВАТНАГА МЛЫНА НА СТ. НАРАЎКА

# 10 МЕСЯЦАЎ ПРАЦЫ — 14.000 зл. СТРАТ

Двух грамадзян з ГРН Старое Ляўкова прыйшлі асабіста ў рэдакцыю са сваім прашэннем. Прасілі памагчы. У чым? Вось пры станцыі Нараўка стаіць млын. 3 месяцы таму млын быў закрыты. Гаспадары з многіх вёсак, якія малолі тут збожжа, не ведаюць дакладна, па якой прычыне млын закрылі. Для іх ён патрэбны, бо блізка і вальцуе. Праўда, ёсць яшчэ млыны ў Нараўцы - пасёлку і Семяноўцы, але для сялян з грамады Старое Ляўкова гэта два разы далей, і тыя млыны маюць толькі зернедрабілкі, а найбліжэйшы вальцовы млын аж у Гайнаўцы. Маюць, здавалася тады мне, сяляне поўную рацыю, калі наракаюць нават на павятовыя ўлады, што не хочуць зноў пусціць у рух млына. Але чаму не хочуць? Ці сапраўды інтарэсы сялян ім не блізкія? Народная ўлада выбрана людзьмі, павінна служыць гэтым людзям — гэта ўсім вядома. Ці ж бы ў даным выпадку паявілася нейкае нарушэнне гэтага правіла? Памыляцца — людзям дапусціма. Але ж памылку выправіць можна і трэба.

Узброеная тады ўсімі «жалезнымі» аргументамі супраць несправядлівага закрыцця млына ў Нараўцы — станцыя я, настроіўшыся на баявы тон у абароне праў вёскі, выехала ў Гайнаўку. Пабывала ў Аддзеле прамысловасці, упрасілася нават да самога старшыні Прэзідыум Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы. І тут даведалася новых рэчаў. Па-першае: справа нараўскага млына павятовымі ўладамі не патрактавана абыякава, лёгкадумна, ёю асабіста займаецца сам старшыня Прэзідыума ПРН. Па-другое: павятовыя ўлады не апраўвяргаюць рацыі сялян, якія кажуць, што млын ім патрэбны. Справа толькі ў тым, што Грамадская рада нарадовая ў Нараўцы не можа пакрываць аграмадных страт, якія прыносіў млын, тым больш, што гэта прыватны млын.

«Нам не верыцца, — пісалі ў сваім паданні прадстаўнікі з ГРН Старое Ляўкова, — што млын даваў страты, ён жа цэлымі днямі меў працу.» Аб гэтым жа самым кажа і старшыня Прэзідыум ПРН у Гайнайцы. Аднак страты ёсць і велізарныя. Аж **14 тысяч за 10 месяцаў працы.** (Зернедрабільны млын у Нараўцы за гэты час даў 10 тысяч чыстага даходу). Дзе ж дзяваліся грошы, пытанне, якое і ты чытач задасі пасля вышэй прачытанага. Адказу яшчэ няма, але адно ясна: так быць не павінна. **ГРН грашыма, якія атрымлівае ад сялян за падаткі не можа пакрываць страт прыватнага млына.**

У ГРН Нараўка мне паказалі ўмову арэнды паміж ГРН Нараўка і ўласнікам млына Антонам Грыцуком. Умова выразна тэндэнцыйная на карысць А. Грыцука.

— Як жа вы падпісалі такую ўмову? — пытаю.

— Бо інакш Грыцук не згаджаўся аддаць у арэнду нам млына, — адказалі.

Акрамя таго Грыцук паставіў яшчэ адно патрабаванне: ён будзе працаваць у млыне, і калі не кіраўніком, (з пэўных прычын, аб якіх успамінаць не буду, кіраўніком яму быць забаронена), то па крайняй меры працаўніком. І ГРН Нараўка на працягу 10 месяцаў арэнды млына плаціла пенсію: кіраўніку млына 800 зл. у месяц, а працаўніку Грыцуку — 1300 зл.

— «Інакш ён не хацеў згадзіцца на арэнду» — тлумачаць. Дабрадушная ГРН у Нараўцы! Даверлівая! **А справа млына на станцыі Нараўка — гэта яшчэ адзін доказ, што сумленныя, чыстыя інтарэсы з прыватнымі ўласнікамі не паплачваюць.**

**І што ж далей будзе з млынам і з людзьмі, якія з яго карысталі?**

Становішча павета такое: млын можа быць зноў пушчаны ў рух, але на іншых умовах — умовах, якія б не давалі страт. Зразумела, што ўлады цяпер, навучаныя 10 месяцамі, не пазволяць, каб умовы арэнды ўстанаўляў уласнік млына. Гэтыя ўмовы падыктуе ГРН у паразуменні з паветам.

Нікому тут не разыходзіцца аб тое, каб крыўдзіць грам. А. Грыцука, але грам. Грыцук не павінен крыўдзіць сваіх суайчыннікаў. **Паўтараю, больш ГРН у Нараўцы, ці іншая, не будзе грашыма, цяжка запрацаванымі сялянамі, пакрываць дзесяткаў тысяч страт. Гэта было б свядомым злачынствам і востра каралася б судом.** Так як зараз у ГРН Нараўка, Старое Ляўкова, Семяноўка няма блізка вальцовага млына, ПРН у Гайнаўцы намерана сарганізаваць, напрыклад, у Нараўцы **пункт абмену мукі на збожжа.** Гаворыцца таксама і аб тым, каб у адным з існуючых зернедрабільных млыноў дадаць вальцы. Усё гэта для таго, каб задаволіць патрэбы жыхароў вымененых трох грамадскіх рад. Ад самых жыхароў ужо залежыць, як аднясуцца да такіх прапаноў, ці зразумеюць слушнасць такога выйсця.

Ад сябе хачу толькі сказаць яшчэ, што даследуючы справу млына на станцыі Нараўка, я ні ў павятовых, ні ў грамадскіх уладаў не заўважыла хоць бы ценя незычлівасці да справы. Наадварот, многа добрасумленных адносін і шчырай клапатлівасці, каб як найлепш усё уладзіць, каб задаволіць людзей.

**вл.**



Тут будзе аграгарадок. (Да артыкула «Калгас «Гвардыя»)

# МАЛАКО І ЯЙКІ

Нікога не трэба пераконваць, якое значэнне ў харчаванні дзяцей і дарослых маюць гэтыя два прадукты. Трэба цешыцца, што з кожным годам маем больш гэтых прадуктаў, значную частку якіх высылаем заграніцу; з кожным годам маем больш зліўных пунктаў малака і лепшае іх тэхнічнае абсталяванне; з кожным годам маем больш курэй, індыкаў, гусей, качак і лепшыя метады іх гадоўлі.

Нядаўна я быў у вёсцы Кнаразы ў Бельскім павеце. Тут ёсць зліўны пункт малака, і штодзённа машына Малочнай акруговай спулдзельні адвозіць малако ў Бельск. Сяляне вельмі задаволены з пункта, таму што ён аблягчае ім працу.

Але ў гэтай жа вёсцы няма пункта скупкі яек. Чаму? Таму што Яйчарскае прадпрыемства ў Бельску не сарганізавала гэтага пункта. А вазіць фурманкамі ўсяляк бывае: то няма каня, то конь баіцца машыны, то іншыя прычыны. Яйкі нерэгулярна адвозяцца. І таму сяляне носяць прадаваць яйкі ў суседнія пункты.

Узнікае пытанне, чаму гэтыя два прадпрыемствы ў Бельску не могуць дайсці да паразумення? Або тая самая машына вазіла б малако і яйкі, або кожнае прадпрыемства па чарзе забірала б гэтыя два прадукты. У кожным выпадку патрэбна ініцыятыва і сіла волі.

Дадам яшчэ, што вёска Кнаразы мае вялікую плошчу тарфяніку і вельмі добрыя лугі, што затым ідзе — мае добрыя ўмовы для жывёлагадоўлі і птушкаводства. Людзі тут вельмі працавітыя. Вось толькі няма каму зацікавіцца гэтым. Нявыкарыстаны яшчэ рэзервы. А шкада!

**Н. Перэвой**
Бельск

# Слуп на дарозе

У Міхалове на скрыжаванні вуліц Беластоцкай і Млыновай стаіць электрычны слуп. Вельмі часта ў час галалёдзіцы машыны наязджалі на гэты слуп. Аднак калі перабудоўвалі вуліцу, ніхто не падумаў аб тым, каб яго перанесці хаця б на 3 метры ў бок маставой. Працамі кіраваў грам. Акштоль паводле планаў ППРН Аддзела камунікацыі ў Беластоку. Прадпрыемства энергетыкі ў Беластоку таксама не цікавіцца тым, больш таго, калі аднойчы быў пашкоджаны слуп, то Прадпрыемства энергетыкі прыехала і паставіла новы слуп на тым жа самым месцы. Здаецца, што ўжо пара, каб грам. Акштоль супольна з ППРН Аддзелам камунікацыі ў Беластоку ў паразуменні з Прадпрыемствам энергетыкі знялі гэтую перашкоду, якая пагражае жыццю многім шафёрам.

**«Дуб»**

# ПЕРШАЯ РАЗМОВА

працяг са стар. 3

сцэны ў вершы «Паэзія»:

«Прывык, прымаю стукат Морза,
І сам надзею шлю ў цагліну.
У карцары таварыш Корсак
Сядзіць там сотую гадзіну.»

Чытачу зборніка «Белавежскія матывы» напэўна запомніцца верш п. з. «Прыгавор». Яго напорысты і энергічны стыль трапна пасуе да апісаных падзей. У пары з гэтымі рысамі ідзе вялікая напружанасць дзеяння, якое дасягае сваёй крайнасці ў перадапошніх зваротках, калі набліжаецца момант выканання партыйнага рашэння аб расстрэле правакатара Белага. Адзначым яшчэ, што верш «Прыгавор» асабліва надаецца да мастацкага чытання дзякуючы значным у ім інтанацыйным магчымасцям, дазваляючым добраму дэкламатару з вялікай сілай уздзейнічаць на аўдыторыю. Але вось на змену гэтым тэмам і матывам ідуць ізноў родныя малюнкі, сагрэтыя лірычным пачуццём, напоўненыя свежым подыхам белавежскай краіны, якой Барскі прыносіць у падарак сваё паэтычнае натхненне. Гэтая бязмежная прывязанасць да пушчанскіх жывічных прастораў прыводзіць паэта да своеасаблівай аўтарскай споведзі ў вершы п. з. «Вернасць»:

«Я хлеба апошні кусок
Аддам у няшчасці другім.
Але шум белавежскіх лясоў
Да болю душы дарагі.»

І таму ўсюды, дзе толькі не падводзіць паэта натхненне, ён уплятае, хаця б нават прамеж радкоў, штосьць з пушчанскіх настрояў. Вось хаця б нават у гэтым трыялеце:

«Сасна свайму бору шуміць,
А колас палеткам шырокім,
Я песню нясу сінявокай.
Сасна свайму бору шуміць...
Ёсць радасць у звоне крыніц,
Ёсць згоднасць у песнях далёкіх.
Сасна свайму бору шуміць,
А колас палеткам шырокім.»

Хай чытач зборніка зверне ўвагу на гэтыя творы-мініятуры Барскага. Імі ж, новымі ў іх матывамі і вобразнымі выяўленчымі сродкамі значна ўзбагачае аўтар сваю паэтычную палітру, уносячы гэтым самым у маладую беларускую паэзію ў Польшчы прыкметы чагосьці новага і свежага.

Пара ж падвесці падрахункі сказанаму аб паэзіі Алеся Барскага. Яго першы паэтычны зборнік з'яўляецца перш за ўсё сур'ёзным творчым здабыткам самага аўтара. Прадстаўленыя ў «Белавежскіх матывах» творы сведчаць аб несумненных здольнасцях маладога творцы. Здзіўляе ў зборніку шырокі тэматычны дыяпазон вершаў, параўнальна значная іх колькасць з рознымі стылёвымі і жанравымі разнавіднасцямі. І тут нейк падсвядома агортвае аўтара гэтых слоў трывога за далейшы лёс паэзіі Барскага. Ці часам ён проста не бавіцца рыфмай і мастацкім сродкам, ці сапраўды сур'ёзна трактуе сваю творчасць? Стольκі ж у зборніку стракатасці і вопытаў. Надта ж хочацца, каб паэт развеяў гэтыя сумненні і парадаваў сваіх чытачоў ужо ў недалёкай будучыні новым зборнікам.

На заканчэнне яшчэ некалькі слоў. У зборніку шмат літарных памылак і што горш — памылак граматычнага характару. Таксама сустракаецца няправільная расстаноўка фанетычных знакаў у вершы. А гэта, у сваю чаргу, вельмі шкодзіць рытміцы паасобных радкоў. Усе ўпамянутыя хібы заніжаюць вартасць гэтай выдавецкай навінкі.

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**

# ГІПНОЗ

Калі мы селі за буфетным столікам, Фама, кульнуўшы першы кілішак, сказаў:

— Уяві сабе, даражэнькі, што дактары пачалі лячыць алкаголікаў гіпнозам. Прыходзіць чалавек у лячэбную, доктар памахае яму рукамі перад носам, і пацыент засынае як суслік. Спіць сабе чалавек сном справядлівым, а доктар пераконвае яго аб шкоднасці алкаголю. Некалькі такіх сеансаў, і чалавек стаецца для сабутэльнікаў нічога не вартай адзінкай. Пасля курса такога лячэння, чалавек адварочваецца ад гарэлкі, як кот ад горкага малака. Ён не толькі круціць носам пры бутэльцы, а проста яго цягне наваніты пры самым выглядзе выпіўкі.

Сёння людзі кладуцца спаць са страхам. Засне чалавек і не вядома якім прачнецца. Можа заставяць яго ўласную жонку любіць, або аддаваць ёй усю зарплату да граша.

Мудрасць стагоддзяў на дне бутэлькі пакоіцца. Аб гэтым ведае кожны член клуба «Сорак пяць градусаў». На якую хваробу паміж чалавекам, а бутэлькай паявіўся гіпноз — не магу зразумець.

Фама выцягнуў астатак гарэлкі, з жалем паглядзеў на пустую пасудзіну і працягваў далей:

— Я таксама ў гіпнатызёра быў. Недахоп грошай заставіў. Заходжу я да эскулапа, а ён кажа:

— Папрабуем. Калі індывідуум лёгка паддаецца гіпнозу, будзе ўсё добра. Толькі эскулап працягнуў рукі, а я ўжо сплю ды яшчэ пахрапваю. Доктар мармыча нада мною ўсялякія выдумкі аб гарэлцы, а я носам пасвістваю.

Збудзіў мяне доктар захоплены.

— Вы, кажа, падатлівы медыюм. Пройдзеце пяць сеансаў і пачнеце ад гарэлкі ўцякаць, як даўжнік ад зборшчыка. А лячыць вас — проста прыемнасць урачу.

Апошні раз зайшоў я да доктара ў дзень зарплаты. Пасля прабуджэння я з удзячнасці абняў доктара, прытуліў як дзяўчыну і нават у лысы лоб пацалаваў. А ён лікаваў, проста свяціўся ад шчасця, як новая каструля.

— Прабачце, — спыніў я Фаму, — але пасля гіпнозу вы ўсё ж такі п'еце.

— П'ю! Кожны ж створаны так, што патрабуе піць. А пад гіпнозам я не спаў. Удаваў толькі.

Пабачыўшы, што Фама збіраецца плаціць за выпіўку, кажу:

— Схавайце вашы грошы, я заплачу.

— Плачу ж я не сваімі, — адказвае Фама. — Гэта грошы доктара. Абнімаючы тады гіпнатызёра, я выцягнуў яму кашалёк. Доктар са свае зарплаты не даў бы на пабудову школ тысячагоддзя такой сумы, як я гэта раблю, плоцячы за гарэлку.

*Дзядзька Левоні*

Лёдавае сэрца.

# Гумар сатыра

Былыя эсэсаўцы вучаць французскіх «ультра».



ВУЧЫЦЦА НІКОЛІ НЕ ПОЗНА.

— Тут маеш мяне, даражэнькая, як на далоні.

— Ці мама не бачыла, я недзе тут палажыў клей.

## МІМАХОДАМ

— Мой дэвіз: зуб за зуб! — сказала Шасцярня.

*

Быў звышчуйны, нават задзёры лічыў затратай лесаматэрыялаў.

*

Час жыць і час уцякаць! — рашыў мнагажонец.

*

Пераліцаваную душу не вывернеш навыварат.

# БАРАНОЙ па ПУСТАЗЕЛЛІ

А ўсё ж такі мышы вельмі пражорлівыя жывёліны. Не дай ім смачнай каўбасы, дык яны нават устарэлую скуру згрызуць. Не верыце? Спытайце тады ў прадаўшчыцы Галадоўскай крамы, Бельскага павета, Вольгі Барташук.

— Акаянныя, — гаворыць яна, — дашчэнту пагрызлі абутак. А ў ім жа маглі б хадзіць людзі, — дадае з жалем.

— Шмат у вас такога пагрызенага абутку?

— Некалькі дзесяткаў пар, агульным коштам, прыблізна на восем тысяч злотых.

— І доўга гэты абутак ляжыць у вашай краме?

— Гадоў дзесяць.

— Ці ж не маглі яго пераацаніць, каб заахвоціць людзей да пакупкі?

— Не толькі абутак, — кажа прадаўшчыца. — У краме ёсць і перастарэлыя тэкстыльныя матэрыялы, на агульную суму звыш дзесяці тысяч злотых. Сёлета яны таксама маюць свой юбілей. Іхняму ляжанню ўжо закончыўся дзесяты год, а ГС не хоча іх пераацаніць.

— А мо' праўленне ГС у Орлі прызначыла гэтыя тавары на пажыўку мышам? Іх жа лепш мышкам грызці, чымсьці, напрыклад, конскія падковы, нажы да сячкарняў або лемяхі да плугаў.

— Што вы! Гэтых тавараў у нашай краме даўно няма. Людзі за імі ў Беласток, а то і ў Варшаву ездзяць. Лямех да плуга, ці нож да сячкарні, гэта ў нас «дэлікатэсовыя» тавары. Іх рэдка калі купіш.

— А ёсць такія тавары, якія ў краме заўсёды бываюць?

— Зразумела што ёсць. Напрыклад, гарэлкі ў нас хоць адбаўляй. А прадаю ж яе нямала. За гарэлку ў месяц гандлёвыя абароты крамы папаўняюцца звыш сарака тысячамі злотых.

— Вяртаючыся яшчэ да мышэй. Ці нельга іх вытравіць з крамы?

— Яны, падлы, вельмі вынослівыя. Некаторыя прапанавалі, каб пакарміць іх арлянскай каўбасой, якая неаднойчы заражваецца «духмянасцю» (калі даўжэй паляжыць у Арлянскай мясцовай краме). Людзі ад гэтай каўбасы мерлі б як мухі ад мухамораў. А мышам нічога, яны яшчэ больш размнажаюцца.

Атручанай пшаніцай гэтых мышэй ужо некалькі год не кармілі. Ды і навошта, калі ў краме тавараў да ежы мышкам хопіць яшчэ на некалькі дзесяткаў год.

Таму не здзіўляйцеся, добрыя людзі, калі, купляючы ў Галадоўскай краме пшанічную муку, знойдзеце ў ёй трэцюю частку шакаладных, мышыных бобікаў. Мышкі ж таксама хочуць есці.

А што праўленне Арлянскай ГС не ў парадку перад кліентамі, гэта ўжо не іх, мышыная справа.

## КАРОТКАСЦЬ — СЯСТРА ТАЛЕНТУ

У школе пісалі апавяданне на тэму «У гасцях у бабулі». Самае кароткае апавяданне было: «Бабулі не было ў хаце».

## ВЕРНЫ СРОДАК

— Ці знаеш, які-небудзь рэцэпт супраць кахання з першага погляду?

— Так, глянуць другі раз!

## НЕ ВЯЗЕ

Вечная няўдача: пазнаёмлюся толькі з добрым чалавекам, то аказваецца, што або ён жанаты, або я ўжо замужня.

# САМААБСЛУГОЎВАННЕ

## ШЧАСЦЕ

— Вось дык маю шчасце. У якім толькі хлопцу закахаюся, ён зараз ідзе ў армію.

— Але праз два гады хлапец вяртаецца дамоў.

— Так, але тады я ўжо другога кахаю.

**Янка Ясьвіловіч**
Пасынкі

## НЕ МОЖА ЗРАЗУМЕЦЬ

— Скажы Коля, — звяртаецца цёшча да свайго будучага зяця, — якая з маіх дочак больш табе падабаецца, Маня ці Люба.

— Я і сам не ведаю, — кажа Коля. — Маня мяне любіць, а Люба маніць.

**Аляксей Кулік**
Фальваркі Вялікія

## ХАЦЕЎ БЫ

Янка пайшоў з мамай у ЗОО. Убачыўшы слана, ён кажа:

— Эх, як я хацеў бы мець яго скуру.

— Чаму? — пытаецца маці.

— Заўтра ж тата пойдзе ў школу, — адказаў Янка.

**Васіль Кіндзюк**
Дубічы

## ШТУКАР

— У нас быў адзін такі штукар, што выцягваў са свайго рота стужку паперы метраў пяць.

— Э, гэта яшчэ нічога. У нас быў такі штукар, што з тэкстыльнай крамы выцягнуў штуку метраў пяцьдзесят.

**Аляксандр Макаль**
Крушыняны.

## РАЗМОВА

— Пазвольце шклянку газіраванай вады.

— З сокам, ці без?

— Без соку.

— А без якога соку: без вішнёвага, ці без малінавага?

**Пеця Абрамчык**
Гайнаўка

## АДВАЖНЫ

— Лёталі вы калі - небудзь самалётам?

— Лётаў.

— І не баяліся?

— Баяўся, але толькі першы раз.

— А другі раз?

— Другі раз, то я зусім не лётаў.

**Надзя Леўчук**
Старына